www.nv-online.info

№ 66 (4011)

25 жніўня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Сёння** яшчэ можна падпісацца на «Народную Волю», з тым каб атрымліваць газету з 1 верасня. Вас чакаюць ва ўсіх падпісных пунктах.

SOS!

## Чорны панядзелак

Учора на таргах Беларускай валютна-фондавай біржы курс долара вырас на 871 рубель і склаў 17.601 рубель. Курс еўра вырас на 1098 рублёў да 19.934 рублёў. Курс расійскага рубля павялічыўся на 1,58 рубля і склаў 247,30 рубля.

Беларускія банкі ад раніцы некалькі разоў перапісвалі курсы. Напрыклад, долар у «Белінвестбанку» раніцай учора каштаваў 17.050 рублёў, а ў абед ужо 18.500 рублёў.

## Рублі на валютную картку не прымаюць...

Відаць па ўсім, банкі пачынаюць сябе засцерагаць. Так, «Прыёрбанк» праінфармаваў кліентаў, што яны не змогуць ажыццявіць наступныя наступныя аперацыі:

перавод грошай з карткі на картку праз банкаматы і ў інтэрнэт-банкінгу;

зняцце грошай валютай з рублёвых рахункаў;

папаўненне беларускімі рублямі карткі ў замежнай валюце.



НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

## В тартарары?

То, что сегодня происходит на валютных рынках, можно трактовать по-разному. Одни это называют глобальной валютной войной, когда наступают особо тяжелые времена для национальных денежных единиц малых стран, другие – очередным парадом девальваций валют, третьи связывают все в основном с политическими причинами. Вероятно, каждый по-своему прав.

Формально толчок привычным валютным трендам дал Народный банк Китая, который, пытаясь поддержать падающий экспорт, административным путем в три приема девальвировал юань к доллару на 4,65%, до 6,5 юаня за доллар США. Может, это и совпало по времени, но следом «полетели» российский рубль и казахстанский тенге. По состоянию на 20 августа российский рубль на торгах Московской биржи «взял» планку 68 денежных единиц за доллар и 77,5 единицы за евро. Тенге разом девальвировался на 36%: с 188,38 до 255,26 денежной единицы за доллар. Нацбанк Казахстана вследствие российских событий отменил валютный коридор для курсов своей денежной единицы, отпустив тенге в свободное плавание.

Обвальное падение российского рубля аналитики считают вовсе не случайным. Мировые цены на нефть катятся вниз. Нефть марки Brent котировалась на бирже в этот же день по 46,33 доллара за баррель. Пессимисты предрекают дальнейшее падение мировых нефтяных цен. Они в этом находят и политические факторы, усматривая «месть кота Леопольда». США и Евросоюз в координации с главными нефтедобывающими странами продолжают бить по болевым точкам российской сырьевой экономики, которую называют большой бензоколонкой из-за зависимости ее внешней валютной выручки от экспорта нефти. Войной в Украине Россия вызвала со стороны Запада и других государств волны экономических санкций.

Следом за валютами ведущих стран Евразийского союза «побежал» и белорусский рубль. 24 августа по результатам торгов на бирже его курс вырос до 17.601 рубля за доллар и 19.934 рублей за евро. С начала августа девальвация белорусского рубля к доллару уже составила более 8%, по отношению к евро – почти 10%. С начала года – это уже почти 40%-ная девальвация. Как цепная реакция упал к доллару и курс киргизского сома – с 62,5 до 65 сомов. Скорее всего, начнут сыпаться и другие валюты стран-участников Евразийского союза и экономик СНГ, зависящих от России.

Как видим, экономическая прочность всех российских союзов – в одних их названиях. В обменниках и банках Беларуси уже отмечен ажиотаж в виде очередей и отсутствия валюты. В состоянии напряжения находятся и банковские вкладчики. С начала лета объемы рублевых депозитов физических лиц в банках начали сокращаться, тогда как валютные вклады растут. Усиливающийся процесс конвертирования рублевых депозитов в валютные оказывает дополнительное давление на курс белорусского рубля. Недоверие к белорусской валюте как средству накопления усилилось с того момента, когда Нацбанк под давлением директората госпредприятий-лоббистов с требованиями предоставить им дешевые кредиты начал в командном порядке неоправданно интенсивно снижать рублевые депозитные проценты в коммерческих банках. Толку от удешевления кредитов никакого, как падал ВВП, так и падает. Более того, за семь месяцев его снижение ускорялось и достигло 4% в годовом измерении. А вот бегство от рубля налицо.

Я считаю, что реальных рычагов у Центробанка России и Нацбанка Беларуси, чтобы хоть как-то повлиять на ситуацию, попросту нет. Да, можно повысить ключевые ставки, увеличить нормы резервирования по валютным ресурсам для банков или долю обязательной продажи валютной выручки на бирже для экспортеров. Но все это мы уже проходили. Тут ничего не остается, как вновь призвать власти к структурным реформам экономики. В этом году 4 млрд долларов должно быть направлено на погашение и обслуживание внешнего долга. Без рефинансирования порядка половины этой суммы Беларуси не обойтись, что сильно затрудняет различного рода маневры денежных властей во внешней и внутренней политике.

По последним событиям дал разъяснения Нацбанк. Как всегда, все неприятности вызваны внешними факторами. Мы, мол, тут ни при чем или почти ни при чем. В Нацбанке в доступной форме пояснили, что «проводимая Национальным банком гибкая курсовая политика позволяет обменному курсу выступать в качестве абсорбента неблагоприятных внешних факторов, снижая степень внешнеэкономических дисбалансов». В главном регуляторе напомнили, что влияние внешних конъюнктурных факторов может приводить к разнонаправленному движению курса, усиливая тем самым его волатильность. По мере снижения турбулентности на внешних рынках и ослабевания конъюнктурных факторов будет снижаться и волатильность обменного курса белорусского рубля. Вот так, просто и понятно. Но что по большому счету может сделать Нацбанк, если валютная выручка продолжает снижаться, если главный донор – российская экономика сама катится в тартарары, а наша экономика вслед? Остается жить известными мантрами: не печатай «пустых» денег, обеспечь свободное ценообразование, создай полноценную конкуренцию на рынке, проведи реальную приватизацию, живи по средствам. Не наступай на те же грабли.



# На волі!

**22 жніўня з месцаў пазбаўлення волі выйшлі ўсе асуджаныя палітвязні – былы кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч, а таксама Мікалай Дзядок, Ігар Алiневіч, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Юрый Рубцоў.**

РЭПЛІКА

## Чаму яны не сустракалі Статкевіча на аўтавакзале «Усходні»?

Інфармацыя пра тое, як грамадскасць сустракала Мікалая Статкевіча, абляцела ўсе сайты, і няма неабходнасці паўтарацца.

Скажу толькі: у той суботні вечар на сталічным аўтавакзале "Усходні" я ўбачыла многіх вядомых палітыкаў, грамадскіх дзеячаў. Прыемна было павітацца з рэжысёрам Вольгай Нікалайчык і пісьменнікам Уладзімірам Арловым, сябрамі суполкі "Арт-Сядзіба" і іншымі. Падыходзілі і простыя беларусы. Але некаторых былых паплечнікаў Статкевіча ў той вечар на вакзале не аказалася.

Чаму?

Таццяна Караткевіч пакінула такі допіс на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку": "Вызваленне палітвязняў – найлепшая навіна". Пры гэтым, заўважце, сама спадарыня Караткевіч не прыехала павітаць экс-кандыдата ў прэзідэнты, бо, як патлумачыла, не была ў Мінску. Старшыня АГП **Анатоль Лябедзька** таксама не з'явіўся на аўтавакзале "Усходні" – ён быў у вёсцы. У панядзелак вярнуўся з адпачынку **Уладзімір Някляеў.**

Старшыня партыі "Справядлівы свет" **Сяргей Калякін** сцвярджае, што *"прадказваў вызваленне Статкевіча яшчэ месяц таму".* Аднак спадар Калякін таксама не прыехаў сустрэць Статкевіча, бо, паводле яго слоў, *"даведаўся толькі на наступную раніцу".*

Як вядома, у свой час Мікалай Статкевіч узначальваў Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю (Грамада). Але чамусьці сённяшнія яе лідары таксама не палічылі неабходным павітаць яго ў сувязі з вызваленнем з-за крат.

Не ўбачыла я на аўтавакзале ні Мілінкевіча, ні Лагвінца, ні Карніенку, ні іншых вядомых апазіцыянераў.

А можа, яны ўжо не апазіцыянеры?

**Кацярына АНДРЭЕВА.**

СА СВЯТАМ!

## 25 жніўня – гадавіна абвяшчэння незалежнасці Беларусі

*У гэты дзень у 1991 годзе набыла моц Дэкларацыя аб суверэнітэце краіны. Рашэнне замацаваць незалежнасць прыняў Вярхоўны Савет БССР услед за іншымі рэспублікамі Савецкага Саюза. Гэта адбылося пасля правалу ГКЧП у Маскве. 25 жніўня на плошчы Леніна ў цэнтры Мінска адбыўся шматтысячны мітынг, удзельнікі якога патрабавалі разагнаць камуністычную партыю. Дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання* ***Сяргей Навумчык*** *так узгадвае пра гэты дзень у гісторыі Беларусі:*

– Народы па-рознаму абвяшчаюць пра Незалежнасць, пра нараджэнне новай краіны. У Беларусі гэта адбылося 25 жніўня 1991 года, калі Вярхоўны Савет надаў Дэкларацыі аб суверэнітэце статус канстытуцыйнага закона і прыняў пакет рашэнняў, накіраваных на рэалізацыю незалежнасці.

Гэтая падзея ўпарта ігнаруецца – як у Беларусі, так і заходнімі даследчыкамі.

У Беларусі яна замоўчваецца, паколькі рэжым Лукашэнкі арыентаваны на падтрыманне ў грамадскай свядомасці міфа пра савецкі перыяд як самы светлы перыяд беларускай нацыі. А дзень 25 жніўня 1991 года, акрамя абвяшчэння Незалежнасці, адметны яшчэ і тым, што ў гэты дзень была спынена дзейнасць Камуністычнай партыі Беларусі, членскі білет якой Лукашэнка, паводле ягонага прызнання, ніколі не выкідваў.

На Захадзе ігнараванне гэтай падзеі мае іншыя прычыны. Часам у тэкстах нават вельмі кваліфікаваных, добрасумленных заходніх даследчыкаў даводзіцца чытаць, што Беларусь атрымала незалежнасць у выніку распаду СССР. Менавіта ў такой паслядоўнасці: спачатку распаўся Савецкі Саюз (зразумела, па волі Ельцына), а потым Беларусь атрымала Незалежнасць (як вынікае – з міласці Ельцына). Пад распадам СССР маецца на ўвазе пагадненне, падпісанае ў Віскулях у снежні 1991 года. Словам, толькі ў выніку волі некалькіх палітыкаў (некаторыя называюць гэта капрызам) на мапе свету з'явілася новая краіна. Часта незалежнасць Беларусі заходнія аналітыкі называюць «выпадковай».

Такі падыход адлюстроўвае павярхоўны, стэрэатыпны падыход, які не мае нічога агульнага з рэальнасцю.

Па-першае, Беларусь дэ-юрэ была незалежнай краінай ужо 25 жніўня 1991 года – у такой жа ступені незалежнай, як Літва альбо Польшча. Канешне, наперадзе быў доўгі шлях адбудовы дзяржаўных інстытуцый, уключаючы ўвядзенне сваіх грошай, стварэнне ўласнага войска, але і ў той жа Літве такі шлях не адбыўся ў адзін дзень. Іншая справа, што тагачаснае кіраўніцтва Беларусі, ігнаруючы патрабаванні дэпутатаў Народнага Фронту, марнавала час і гуляла ў бесперспектыўныя гульні з Гарбачовым.

Па-другое, сам распад СССР быў вынікам тых працэсаў, якія адбываліся ў канцы 1980-х – на пачатку 1990-х у былых савецкіх рэспубліках. У тым ліку і ў Беларусі, у якой палітычны авангард грамадства выразна патрабаваў незалежнасці.

Незалежнасць Беларусі была не выпадковасцю, а вынікам сістэмных палітычных намаганняў. Незалежнасць як галоўная палітычная мэта была заяўлена на Сойме БНФ яшчэ ў маі 1990 года. Дэкларацыя была прынята 27 ліпеня 1990 года, але з узгадненнем пра падпісанне саюзнай дамовы (такім чынам, Беларусь заставалася ў складзе СССР). Таксама Дэкларацыя прызнавала Канстытуцыю і законы СССР вышэйшымі за беларускія. Увесь год парламенцкая апазіцыя намагалася ад Вярхоўнага Савета надаць Дэкларацыі статус канстытуцыйнай сілы, і толькі 25 жніўня 1991 года ўдалося гэта зрабіць.

ПАСЛЯ ПУБЛІКАЦЫІ Ў "НАРОДНАЙ ВОЛІ"

## Даручана прыняць вычарпальныя меры па вырашэнні сітуацыі

***Галоўнаму рэдактару газеты "Народная Воля" Сярэдзічу І.П.***

Паважаны Іосіф Паўлавіч!

У сувязі з тым, што 11 жніўня 2015 года ў газеце "Народная Воля" быў надрукаваны калектыўны ліст дольшчыкаў будаўніцтва аб'екта "Шматкватэрныя жылыя дамы з аб'ектамі грамадскага прызначэння ў межах вуліц Валгаградскай–Ватуціна–Караленкі–Кутузава з вылучэннем першай чаргі – шматкватэрны жылы дом з убудаванымі гандлёвымі і адміністрацыйнымі памяшканнямі і падземнай аўтастаянкай", паведамляем наступнае.

Выкладзеныя ў ім пытанні знаходзяцца на кантролі дзяржаўных устаноў, у тым ліку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

У Савеце Міністраў адбылася нарада з удзелам прадстаўнікоў Камітэта дзяржаўнага кантролю, Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, Міністэрства юстыцыі, Мінскага гарвыканкама, страхавой кампаніі РУП "Белэксімгарант", дзе разгледжаны розныя варыянты магчымага завяршэння ТАА "Валынь" будаўніцтва аб'екта ў рамках дзеючага заканадаўства.

Мінскім гарвыканкамам у Эканамічны суд г.Мінска пададзена заява аб эканамічнай неплацежаздольнасці (банкруцтве) ТАА "Валынь".

У дачыненні кіраўнікоў ТАА "Валынь" па факце раскрадання грашовых сродкаў удзельнікаў будаўніцтва ўзбуджана крымінальная справа. Расследаванне праводзіцца Следчым камітэтам.

Кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь даручана старшыні Мінскага гарвыканкама трымаць пытанне на асабістым кантролі і прыняць вычарпальныя меры па вырашэнні сітуацыі.

**В.В.МІЦКЕВІЧ,**
**намеснік Кіраўніка**
**Адміністрацыі Прэзідэнта**
**Рэспублікі Беларусь.**

ТЭМА ДНЯ



*Іосіф СЯРЭДЗІЧ*

## Выпрабаванне Свабодай

**Няўдзячная справа – даваць парады. Як і выказваць нейкія заўвагі тым, хто толькі што пабываў у пекле і ледзь жывы выкараскаўся адтуль.**

**Але ж і маўчаць, сціснуўшы зубы, рабіць выгляд, быццам тое, што адбываецца навокал, мяне не хвалюе, не цікавіць – не магу.**

**У суботу нарэшце Бог узгадаў пра нашу грэшную зямлю. І навёў Аляксандра Лукашэнку на думку выпусціць з-за крат на волю Мікалая Статкевіча, Ігара Аліневіча, Яўгена Васьковіча, Мікалая Дзядка, Арцёма Пракапенку, Юрыя Рубцова.**

**Няма сэнсу нагадваць, з якой нагоды гэтыя людзі не адзін год пакутавалі ў турэмных засценках. Ёсць вердыкт афіцыйнай Феміды, і ёсць заключэнні праваабарончых арганізацый, у тым ліку міжнародных. Яны кардынальна розняцца, апошнія лічылі ўсіх шасцярых палітычнымі вязнямі.**

**Пакіну за калегамі каментарыі і наконт таго, чаму А.Лукашэнка злітаваўся над асобамі, моцнымі духам, менавіта цяпер, а не, скажам, год-два таму. Заўважу толькі: тыя, хто сустракаў на аўтавакзале "Усходні" таго ж Мікалая Статкевіча, скандзіравалі "Герой!" і падкідвалі яго на руках. Героямі выйшлі з турмаў і іншыя пакутнікі.**

**Ды што казаць, сёння ў вачах значнай часткі грамадства ўсе шасцёра – героі. Але гэта сёння, а што будзе заўтра, праз год, два, тры?.. Што значаць словы М.Статкевіча "Я вяртаюся не ў палітыку, я вяртаюся ў барацьбу"? З кім будзеш змагацца, спадар Мікола? Дзеля чаго? Якія метады возьмеш на ўзбраенне? Пытанні без адказаў. І нельга іх зараз патрабаваць ад чалавека, які толькі-толькі ўбачыў неба над галавою і ўдыхнуў свежае паветра.**

**І ўсё ж я невыпадкова ўзяўся за пяро. Сёння, як і раней, мне не дае спакою такое пытанне: "А што далей?" Помню, менавіта ў такой фармулёўцы я некалі ў прысутнасці прафесара Вячаслава Оргіша задаў яго толькі што вызваленаму з турмы Аляксандру Казуліну. Знайшлі ціхі куточак у Мінску і там за півам без старонніх вачэй абмяркоўвалі гэтае лёсавызначальнае пытанне, нават дапамагалі ўчарашняму вязню знайсці на яго адказ. Маўляў, напачатку трэба аднавіць здароўе, адпачыць, прааналізаваць кожны крок, зроблены на шляху палітычнай дзейнасці, а пасля публічна звярнуцца да сваіх актыўных прыхільнікаў, да ўсяго беларускага народа. Звярнуцца з канкрэтнай праграмай дзеянняў, з заклікам да далейшага змагання за новую Беларусь.**

**Тады Аляксандр Казулін успрымаўся значнай часткай электарату ледзь не як адзіны сур'ёзны апанент Лукашэнкі, як лідар, які здольны аб'яднаць апазіцыю, зрабіць многае па згуртаванні ўсяго беларускага народа. Буду шчырым, я верыў у Казуліна як ні ў кога іншага. Як і мільёны людзей, быў уражаны яго мужнасцю. Больш за пяцьдзясят сутак трымаў ён галадоўку ў турэмных сутарэннях. Не дні, а, лічы, гадзіны аддзялялі яго ад сыходу на той свет. Выжыў, выстаяў! Вярнуўся на волю героем! А што далей?**

**Далей мінуў месяц, другі, трэці, а Казулін маўчаў. Маўчыць ён і сёння, хоць з таго часу, калі ён выйшаў на свабоду, ужо прайшлі многія гады! Не палічыў ён неабходным сустрэцца з тымі вядомымі і вельмі паважанымі ў краіне людзьмі, якія, не зважаючы на рэпрэсіі, на магчымыя непрыемнасці па службе, паставілі свае подпісы пад першым, надзвычай важным, зваротам у яго падтрымку, што быў надрукаваны 19 лютага 2005 года на тытульнай паласе "Народнай Волі". Такога магутнага па грамадска-палітычным гучанні дакумента я не магу ўзгадаць, перабіраючы ў памяці ўсё сваё творчае жыццё. Можаце ўявіць: амаль дзевяноста знакавых асоб краіны выказалі жаданне быць побач з Аляксандрам Казуліным, як толькі ён аб'явіў аб намеры стварыць грамадскі рух "Воля народа". Яны былі яго маральным апірышчам і тады, калі ўлады кінулі былога рэктара Белдзяржуніверсітэта за краты. Маглі быць і пасля вызвалення з турмы. На жаль, дыялог перарваўся. І я за ўсе мінулыя гады так і не зразумеў, чаму Аляксандр Уладзіслававіч, які геройчна перанёс страшэнныя выпрабаванні, пасля вяртання з турмы фактычна паставіў крыж на сваёй палітычнай дзейнасці, сышоў, можна сказаць, у нябыт. Сышоў, нават не падзякаваўшы тым добрым людзям, якія хацелі бачыць у ім новага лідара Беларусі.**

**А ці ж мала было ў грамадскасці спадзяванняў на іншых яркіх асоб, якія ўзыходзілі на палітычным небасхіле Беларусі! Узгадаем таго ж Андрэя Клімава. Вось ён гучна заяўляе пра пачатак "беларускай рэвалюцыі". (Наогул, яго красамоўства не ведала межаў.) Шкада толькі, што яму не хапала станоўчых практычных вынікаў. Таму пасля кожнай паразы Андрэй аказваўся за кратамі. І кожны раз выходзіў з турмы... героем. А што на фінішы? Нічога. Вось ужо некалькі гадоў Андрэя Клімава, як і Аляксандра Казуліна, не чутно і не бачна.**

**А ці не звярнулі вы ўвагу на такую характэрную асаблівасць беларускай апазіцыі: за кратамі апаненты ўлады становяцца нацыянальнымі героямі, а як толькі выходзяць на свабоду, дык альбо наогул знікаюць з палітычнага далягляду Беларусі, альбо аказваюцца ў ценю актыўнага грамадскага жыцця. Сяргей Скрабец, Міхаіл Чыгір, Дзмітрый Бандарэнка, Андрэй Саннікаў, Павел Севярынец, Дзмітрый Дашкевіч... Не пералічыць усіх, з кім, здавалася, можна горы звярнуць. Але, на жаль, зрабіць гэта пакуль не ўдалося.**

**А ці ўдасца "звярнуць горы" з кім-небудзь з тых шасцёх, каго два дні таму выпусціў з-за крат на волю Аляксандр Лукашэнка? Выпрабаванне турмой, доўгім зняволеннем Мікалай Статкевіч, Ігар Аліневіч, Яўген Васьковіч, Мікалай Дзядок, Арцём Пракапенка, Юрый Рубцоў вытрымалі з гонарам. А вось ці вытрымаюць яны выпрабаванне Свабодай? Ці не сыдуць з цягам часу ў палітычны нябыт, як сышлі многія папярэднікі?**

**Так, кожны чалавек мае права самастойна вызначаць, як яму жыць, па якіх правілах дзейнічаць, якіх арыенціраў прытрымлівацца, якую мэту лічыць прыярытэтнай. Такое права застаецца і за шасцю вышэйназванымі асобамі. Вось толькі цікава, як яны, сённяшнія героі, гэтым правам распарадзяцца: або далей будуць мужна змагацца з усім тым, што супярэчыць агульнанародным, агульнанацыянальным інтарэсам, або ўсё ж збочаць з палітычнага шляху, на якім больш калючых шыпоў, чым ружаў.**

**Адказ засведчыць час.**

### P.S.

**Паставіў кропку, а ў галаве раптам мільганула думка: навошта рабіць нейкія віртуальныя прагнозы, калі сёння работы для ўчарашніх вязняў – хоць адбаўляй. Яшчэ перад пасадкай у турму Мікола Статкевіч узяўся за стварэнне новай сацыял-дэмакратычнай партыі. Ёсць у нас дзве – трэба, бачыце, трэцяя. А ці не лепш было б наладзіць нармальную дзейнасць хаця б адной з існуючых? Чаму б не звярнуцца да таго ж Станіслава Станіслававіча Шушкевіча з прапановай, каб ён перадаў табе, спадар Мікола, лейцы кіравання партыяй, якую афіцыйна ўзначальвае, але аб якой даўным-даўно нічога не чуваць? Усё роўна рана ці позна, але некаму давядзецца займацца рэанімацыяй гэтай партыі.**

**Б'юцца ў канвульсіях і многія іншыя палітычныя структуры. Падстаўляйце, хлопцы, плячо іх лідарам, рабіце ўсё, каб тыя ж партыі сталі сапраўды масавымі, каб у іх шэрагі пацягнуліся тысячы людзей. Ці ж не сорамна, што ні партыя "Справядлівы свет", ні Аб'яднаная грамадзянская партыя не змаглі сабраць неабходную колькасць подпісаў за вылучэнне іх лідараў кандыдатамі на прэзідэнцкую пасаду?**

**А ці ж няма за што ўчапіцца ў эканамічнай сферы? Вунь колькі нявырашаных праблем! І не ўсе яны патрабуюць разгляду на дзяржаўным узроўні. Часам дастаткова індывідуальнай ці грамадскай ініцыятывы – глядзіш, і камень зрушыцца з месца.**

**Адным словам, за работу, сённяшнія героі! Канкрэтную, выніковую. За тую, якая паспрыяе будаўніцтву новай Беларусі.**

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

# Размеркавацца замест Купалаўскага тэатра ў сельскі клуб і разварушыць вёску



***На мінулым тыдні ў Наталлі скончыўся тэрмін размеркавання ў Гародзькаўскім сельскім клубе, што ў Валожынскім раёне. На развітанне дзяўчына, якая свядома паехала працаваць у вёску, зладзіла свята для жыхароў суседніх Кашчэлічаў і Лохаўшчыны.***

## Адзіная з групы

Наталля вучылася на кафедры рэжысуры абрадаў і святаў Універсітэта культуры і мастацтваў. На пятым курсе яна вырашыла паехаць працаваць у вёску. (Папярэдне набыла сабе дом ў раёне добра вядомага хутара Шаблі, што ў вёсцы Малое Запруддзе.) Сваім рашэннем Наталля літаральна шакіравала ўніверсітэцкую размеркавальную камісію. Лепшая студэнтка на курсе, першая ў спісе на размеркаванне, якую чакае як мінімум Купалаўскі тэатр ці аспірантура, адзіная з групы выбрала вёску!..

*«Мне вельмі блізкія нашы абрады, а іх лепш за ўсё ладзіць на вёсцы, а не ў горадзе, бо вельмі дзіўна выглядае Купалле на гарадской сцэне,* – тлумачыць “Еўраррадыё” сваё дзіўнае рашэнне **Наталля**. – *Таксама я вельмі люблю бабулек і вельмі захацелася іх нечым парадаваць. Я бачу, якія яны шчаслівыя, калі хоць нешта адбываецца ў іхняй вёсцы. Ды і не ўсім жа жыць у гарадах».*

Як толькі дзяўчына прыехала працаваць мастацкім кіраўніком у Гародзькаўскі клуб, мусіла сядзець на рабоце з 10 раніцы да 7 вечара штодня. Патрабаванне «адседжваць працоўны час» яе абурала, аднак дырэктар клуба парыравала: *«Вось вы прыходзіце ў краму – яна ж адчынена? Адчынена! А прыйдзе хто-небудзь у клуб – і ён таксама мусіць быць адчынены».* Аднак **Наталля** знайшла выйсце з сітуацыі: пачала хадзіць па бабулях, запісваць мясцовыя легенды, песні і асаблівасці абрадаў і рэпеціраваць з гуртамі **«Хата»** і **«Гутатэлі»**. І дырэктарка «здалася». У выніку гурт «Хата», які ўмоўна працаваў на базе клуба, пачаў ездзіць з канцэртамі на раённыя святы, яго сталі запрашаць і ў суседнія гарады.

## “За мной заехала «таблетка»

*«Самыя недарэчныя моманты за гэтыя два гады звязаны з выступленнямі перад камбайнерамі (падчас уборачнай трэба даць чатыры канцэрты ў палях) і дыскатэкамі, якія некалькі разоў мне давялося «круціць»,* – узгадвае **Наталля**. – *Мне патэлефанавалі і сказалі падтрымаць камбайнераў, якія дзень і ноч збіраюць ураджай збожжа. За мной заехала «таблетка» – машына, якая развозіць ежу на палі. І я з каструлямі і ў касцюме еду да камбайнераў. Выходжу да 15 камбайнераў, кажу ім словы падтрымкі і пад шэйкер спяваю песню «Орел, Божья птица». Яны ядуць, стукаюць лыжкамі аб жалезныя талеркі, маладыя ледзьве стрымліваюцца, каб не зарагатаць, а некаторыя глядзяць з разуменнем – маўляў, разумеем, такая праца».*

Дыскатэкі (да нашай размовы далучаецца дырэктар **Алена Іванаўна**) – гэта ўвогуле галаўны боль сучасных сельскіх клубаў: яны маюць план за год з продажаў сабраць 10 мільёнаў. Але як? Моладзь сядзіць у сацыяльных сетках, і дыскатэкі іх больш не цікавяць.

*«Ты прыходзіш на працу, уключаеш музыку, і яна проста грае, нікога няма,* – смяецца **Наталля**. – *Але, бывала, што заходзілі некалькі чалавек у нецвярозым, зразумела, стане, якія абураліся музыкай, якую я ўключала. Кшталту: «Давай Верку Сярдзючку!» Было і смешна, і нясмешна, бо яны рэальна патрабавалі яе».*

## Важна, па які бок стаяць малады і маладая

У выніку дзяўчына цалкам пераключылася на працу з дзецьмі (вядзе тэатральны гурток) і на абрады: разам з мясцовай моладдзю (маладыя мінчукі ў свой час ахвотна скуплялі пустыя хаты ў гэтых мясцінах) ладзіць Купалле, дажынкі, Каляды для вяскоўцаў і нават сапраўднае вяселле з захаваннем усіх старажытных правілаў. Больш за тое, Наталля задалася пытаннем, чаму беларусы так часта разводзяцца, і знайшла адказы падчас грандыёзнага даследавання. А яе праца пад назвай «Трансфармацыя беларускіх традыцый» была апублікавана ў зборніку артыкулаў сумеснага навуковага праекта «Расія–Беларусь» – «Сучасная святочная прастора».

*«Я пачала капаць і знайшла шмат цікавага. Напрыклад, падчас вяселля важна, па які бок стаяць малады і маладая, ці, напрыклад, букет ніколі ніхто не кідаў, бо ён сімвалізуе каханне маладых. Я гэтым пытаннем займалася ва ўніверсітэце, а цяпер выпала магчымасць гэта рэалізаваць, тым больш што знайшлася пара, якая хацела ажаніцца менавіта па старажытных правілах. Былі і коні з бразготкамі, і абрад шукання жаніха і нявесты ў бярозавым гаі з заплюшчанымі вачыма, і вянчальны абрад каля дзвюх бяроз з мёдам і жытам, і пасад, накрыты кажухом, на які садзілі маладую. А бабулі мясцовыя пры гэтым ставілі перашкоды на шляху маладых, і ім вельмі падабалася іх роля».*

Наталля не ўтойвае, што з яе прыездам у Гародзькі жыццё навакольных вёсак разварушылася. Ды і бабулі ажывіліся: ідуць міма – дый зойдуць у клуб:

*«Калі ў нас свята вёскі, усе збіраюцца, і я бачу, што значыць для іх гэтая падзея. Старыя людзі ж сядзяць па сваіх хатках, максімум – зойдуць адзін да аднаго. А тут збіраюцца ўсе разам, узгадваюць жыццё, мінулае, як некалі з немцамі на танцы хадзілі, і бачна, што яны вось так не збіраліся гадоў 30. І я шчаслівая, калі людзі шчаслівыя. Атрымліваецца разнастаіць іх будні, якія складаюцца ў асноўным з агародаў ды тэлевізараў».*

***

Пасля адпрацоўкі размеркавання **Наталля** збіраецца далей заставацца ў вёсцы, тым больш што мае тут ужо і кавалера з мінчан, якія сюды пераехалі. Яшчэ плануе крыху павандраваць і займацца творчасцю. Але кажа, што размеркаванне было для яе карысным досведам: навучыла адказнасці і дысцыпліне, а таксама дало магчымасць рэалізавацца ў сціплых умовах:

*«Размеркаванне на вёску патрэбна, каб падтрымаць нашу культуру. Бо я не ведаю, якім трэба быць «ударнікам», каб маладому вось проста так паехаць на вёску. Але гэта вучыць цябе дысцыпліне, адказнасці. Я, вядома, дала б крыху больш свабоды творчым людзям, бо сядзець на працы “ад і да” – нецікава. Трэба, каб нашы традыцыі жылі, але вось так з-пад палкі наўрад ці нешта атрымаецца...»*

**Маша КАЛЕСНІКАВА.**

ШАХМАТЫ

## Полковник и шахматист

Эту задачу *(см. диаграмму)* составил белорусский композитор Виктор Иванович Вовнейко (1948–1998) – полковник, призер чемпионатов Беларуси и Вооруженных сил СССР по композиции, автор свыше 450 задач.

**Белые:** Kpd2, Фа2, Kg3, Kg5 (4).

**Черные:** Kpg1, пп. f3, g2, h3 (4).

Мат в 2 хода.

Присылайте ответы на адрес редакции (220030, г.Минск, ул.Энгельса, 34а) или на электронный адрес: vadim_ne67@mail.ru.



## Минский форум

Традиционный турнир «Минск Опен» собрал в этом году 128 участников из 4 стран, причем около четверти из них имели международные звания. Первенствовал белорусский гроссмейстер Алексей Александров – 7,5 из 9. Столько же у его коллеги Владислава Ковалева, а на третьем месте – один из самых перспективных юных белорусских шахматистов Михаил Никитенко – 7 очков. 4–9-е места разделили гроссмейстеры Алексей Федоров, Евгений Подольченко, международные мастера Виталий Мерибанов, Дмитрий Новицкий (Беларусь), украинский мастер ФИДЕ Евгений Штембуляк и белорус Александр Кочеев – по 6,5. Среди набравших по 6 очков – гроссмейстеры Юрий Тихонов, Анастасия Зезюлькина, Виктор Купрейчик, международные мастера Павел Ломако, Валерий Смирнов, Сергей Хамицкий, по 5,5 – гроссмейстеры Игорь Люцко, Виталий Тетерев, международный мастер Евгений Мочалов... Призами среди женщин награждены Анастасия Зезюлькина, Екатерина Богдан и Ирина Дроговоз, среди ветеранов – Виктор Купрейчик, Валерий Смирнов и Евгений Мочалов, в своих рейтинговых группах – Алина Сукалина, Вера Прокопук, Станислав Ковалевский, Дмитрий Анискевич...

## Медальный дождь

На молодежном чемпионате Европы в Нови-Саде белорусы завоевали 19 медалей: в блице «золото» у Максима Царука и Ксении Зеленцовой (до 10 лет), Максима Иванникова и Ольги Баделько (до 14), Валерия Казаковского (до 18), «бронза» – у Вячеслава Зарубицкого (до 14) и Михаила Никитенко (до 18); в быстрых шахматах «золото» у Максима Царука и Ксении Зеленцовой (до 10 лет), Вячеслава Зарубицкого и Ольги Баделько (до 14), «бронза» – у Евгении Мицкевич (до 14) и Михаила Никитенко (до 16). Ольга Баделько была второй в суперфинале. Еще две медали завоеваны в командном зачете, три – в решении задач.

## Летний шедевр

Партия белорусского гроссмейстера Сергея Каспарова была признана экспертами одной из лучших среди сыгранных в мире этим летом.

**С.Каспаров – И.Миладинович (Алжир, 2015).** 1.e4 c5 2.Kf3 e6 3.d4 cd 4.K:d4 K 5.Kc3 d6 6.g4 h6 7.h3 a6 8.Cg2 Kbd7 9.Фe2 Фc7 10.0-0 Ce7 11.Ce3 g5 12.Лad1 Ke5 13.f4 gf 14.Л:f4 Cd7 15.Фf2 Kh7 16.Kf5 ef 17.Kd5 Фc8 18.K:e7 Kp:e7 19.ef f6 20.Лfd4 Kg5 21.Л:d6 Cc6 22.C:g5 hg 23.Фc5 Kpf7 24.Л:f6+ Kp:f6 25.Лd6+ Kpf7 26.Ф:e5 Лh7 27.Лf6+ Kpg8 28.Лg6+ Kpf7 29.Cd5+ C:d5 30.Ф:d5+. Черные сдались.

## Проверьте решения

Задача А.Булавки, В.Волчека и В.Зайцева (4 августа): 1.Фf2! Первыми решения прислали Ч.Якубовский, С.Пунько (Минск), В.Каташук (Брест).

**Вадим ЖИЛКО.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



# *Ігар БОКІЙ:* «Урачы забаранялі мне займацца плаваннем»

*Пяціразовы чэмпіён Паралімпіяды-2012 **Ігар БОКІЙ**, які днямі на чэмпіянаце свету па плаванні заваяваў яшчэ шэсць залатых медалёў, распавядае пра свае рэкорды і мары.*

З дзевяццю медалямі вярнуліся беларускія плыўцы з чэмпіянату свету па плаванні сярод паралімпійцаў. Шэсць залатых і адзін сярэбраны медаль заваяваў бабруйчанін Ігар Бокій. Абсалютны рэкорд! З Паралімпіяды-2012, якая праходзіла ў Лондане, Ігар прывёз дадому шэсць медалёў – 5 залатых і 1 сярэбраны.

**– Як пачувае сябе рэкардсмен?**

– Адпачываю пасля першынства, хоць, натуральна, у залу ўсё роўна хаджу для падтрымання формы. Але трэніровак няма.

**– На колькі медалёў разлічвалі перад чэмпіянатам?**

– Планаў асаблівых не было, але пасля Паралімпіяды неабходна было захаваць статус і выступіць як мінімум не горш. Атрымалася нават лепш.

**– Ці складана ставіць рэкорды?**

– Нічога складанага няма, калі ідзеш да нечага мэтанакіравана. Заплыў ідзе на хвіліны і секунды, а трэніроўкі – на гады і штодзённую працу да сёмага поту. Таму вынік, медалі – гэта ўсяго толькі прыгожая карцінка, за якой стаіць тая работа, якую балельшчыкі не бачаць. Нават пасля гучнай перамогі на Паралімпіядзе часу на нейкі адпачынак асабліва не было. Ізноў давялося запрагацца... Нават нагрузку павялічылі ў некаторых відах плавання.

**– Зараз дзе вы трэніруецеся?**

– У Мінску, у новым басейне ля Універсітэта фізкультуры. Шыкоўнае месца, ёсць усе умовы для нармальнай падрыхтоўкі.

**– Пра родны Бабруйск не забываецеся?**

– Не, натуральна. На выхадныя дадому езджу, часам зборы там праходзяць. Там, дарэчы, на ўвесь горад усяго два басейны, але і тыя трэба паляпшаць. Сталіца ў гэтым плане ні ў якое параўнанне не ідзе.

**– Ігар, праўда, што ў свой час вас выганялі з секцыі па плаванні?**

– Была справа, але гэта яшчэ ў дзяцінстве. Свавольнічаў, пасля паразумнеў. А ўвогуле, мне ж урачы забаранялі трэніравацца, бо былі праблемы са зрокам. Казалі, што я сур’ёзна рызыкую сваім здароўем. Але як кінуць тую справу, якой прысвяціў жыццё, да якой мяне цягне бы магнітам? Я не стаў спыняцца. І спрэчка з медыкамі закончылася тым, што я трэніруюся па паралімпійскай праграме, таму нагрузкі не такія вялікія. На міжнародных спаборніцтвах я выступаю як інвалід па зроку, але ўдзельнічаю і ў некаторых спаборніцтвах па звычайным плаванні.

**– Пасля Паралімпіяды ў Лондане вы казалі, што марыце выступіць калі-небудзь і на Алімпійскіх гульнях...**

– Ёсць такія мары, і, калі вынікі дазволяць, то можна паспрабаваць сябе на вышэйшым узроўні. Трэба ж мець такія паказчыкі, каб не было сорамна. Шчыра скажу, пакуль яшчэ не дацягваю.

**– У паралімпійцаў славы, напэўна, менш, чым у алімпійскіх чэмпіёнаў?**

– Магчыма, але мяне таксама на вуліцы некаторыя пазнаюць, балеюць, думаю, не менш. На спаборніцтвах у нас цудоўная падтрымка, так што ў гэтым плане розніцы ніякай я не бачу. Хоць, безумоўна, алімпійцы – яны заўсёды на першым плане.

**– І атрымліваюць “па вушах” у першую чаргу, калі няма выніку. Напрыклад, нашы плыўцы, якія на нядаўнім чэмпіянаце свету не заваявалі ніводнага медаля...**

– Разумееце, людзі – не робаты. Чалавек не можа бясконца толькі даваць вынікі, даваць, даваць... Ёсць мноства фактараў пры падрыхтоўцы, падчас спаборніцтваў. Сёння на атрымалася – заўтра атрымаецца. А ў нас хочуць, каб заўсёды! Гэта няправільна, так нельга ставіцца да спартсменаў. Можна пакрытыкаваць, але не варта накідвацца на людзей. Мы ж усе не заўсёды атрымліваем тое, што хочам? І ў спорце, і ў жыцці. Хіба не так?

**– За тую колькасць медалёў, якія заваёўваеце на прэстыжных спаборніцтвах, вас часам называюць “беларускім Фэлпсам”. Як вам такое параўнанне?**

– Прыемна, безумоўна, але асабіста я сябе так не назваў бы. У мяне наогул у плаванні вялікіх куміраў няма, бо ў кожнага спартсмена – індывідуальная тэхніка. Я проста працую над сабой.

**– Колькі трэніруецеся ў дзень?**

– Дзве трэніроўкі па 2–3 гадзіны.

**– У вольны час?..**

– Аднаўляюся, у выхадныя можна з дзяўчынай у кіно схадзіць. А вось на футбол ці хакей мяне не цягне. Як кажуць, не фанацею ад гэтых відаў спорту.

**– Праз год – Паралімпіяда ў Бразіліі. Можаце там пабіць свой папярэдні рэкорд?**

– Пастараюся. Я ўжо зразумеў, што нічога немагчымага ў гэтым жыцці няма...

**Алесь СІВЫ.**



НУ И НУ!

## Болельщик «Арсенала» передает привет Александру Глебу из могилы

*Необычную историю рассказывает британское издание The Telegraph.*

Мнения поклонников «Арсенала» о белорусском футбольном полузащитнике разделились. Некоторые из них считают Алекса одним из наиболее технически одаренных игроков, реально украсивших короткую историю стадиона «Эмирейтс».

Правда, для многих полузащитник олицетворял собой все те черты, которые так разочаровывали в командах Арсена Венгера за последние годы.

Джефф Коэн, который твердо причислял себя ко второму лагерю, настолько не любил Глеба, что после смерти фаната на его мемориальной доске было выгравировано: *«Джефф Коэн никогда не котировал Глеба».*

Сын Джеффа, Ховард Коэн, который занимался установкой памятной таблички около стадиона «Эмирейтс», говорит, что своей любовью к «Арсеналу» он обязан именно отцу. Не так давно Ховард написал в твиттере: *«Отец считал, что он (Глеб) – мусор. Папа поддерживал «Арсенал» с 1950-х годов, поэтому мне хотелось как-то зафиксировать его стеб по этому поводу».*

УСМІХНІЦЕСЯ!

Пасля выхадных цяжка толькі першыя пяць дзён.

***

Сёння на кухні паставіў новую ракавіну...

– А старая што, не дагадзіла?

– Занадта маленькая!

Каб вады ў чайнік набраць, прыходзілася спачатку ўвесь посуд перамыць.

***

Толькі збіраешся разбагацець – то за кватэру плаціць трэба, то туфлі парвуцца.



**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а.**
**Прыёмная:**
**тэл./факс (017) 3286871.**
**Тэл. рэкламнага аддзела: (017) 3286609**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

9 772071 964000 15066

**Падпісныя індэксы:** 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 24.08.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25450 экз. Заказ №3009.